Беларуская газета

sumezhzha

# СУМЕЖЖА

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі:
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!...

Я.КУПАЛА



№ 15 (115) Заснавана ў 1991 годзе. травень 2001 г.

# І КУДЫ МЫ ПРЫЙШЛІ "СВАІМ ШЛЯХАМ"

Як ні круці, а надышла пара падводзіць вынікі кіравання краінай першага беларускага прэзідэнта. Цэлых сем гадоў. У ЗША гэта амаль што заканчэнне другога тэрміну прэзідэнцтва. Беларусы разумней за ўсіх, трэцяя частка насельніцтва ўжо зараз цвёрда гатова зноў аддаць руль свайму любімцу.

А што ён зрабіў са сваім "рынкавым сацыялізмам" за гэты тэрмін? Сем гадоў таптання на месцы, а калі сказаць больш востра, бяздарнай палітычнай дзейнасці прывялі да развалу эканомікі і масавага жабрацтва. Сёння ўжо тры чвэрці беларускіх сем'яў маюць мінімальныя даходы і знаходзяцца за рысай беднасці. У краіне з амаль што дзесяцімільённым народам 8 мільёнаў маюць даходы ніжэй мінімальнага спажывецкага бюджэта. Хто не ведае яго памеры, паведамім, што сям'я з чатырох чалавек згодна пастановы Міністэрства працы штомесяц павінна мець на расходы 291428 рублёў, а адзінокая жанчына-пенсіянерка адпаведна 68452 рублі.



Дзе яны такія шчасліўцы? У паловы насельніцтва няма грошай і на мінімальны пражытачны мінімум. Гэта ў цэнтры сытай Еўропы! Гэта жахліва. Гэта горш Чачні, бо вайны супраць народа знешне ў нас не бачна.

А што ў астатнім жыцці краіны? Заводы, праўда, "запушчаны" і калгасы "квітнеюць". Затое маем штогод "Дажынкі", песні і фестывалі. Гуляем і п'ём. П'ём усё часцей і беспрабудна. Толькі афіцыйна зарэгістравана 18 тысяч жанчын і каля 180 тысяч мужчын, хворых на алкагалізм.

Жыць усё страшней, бо вакол злачынцаў более. Крадуць днём і ноччу адкуль толькі могуць і што дрэнна ляжыць. Праўда, турмы перапоўнены. Па колькасці асуджаных, разведзеных, кінутых дзяцей пераплюнулі не толькі Еўропу, але і ў ліку сумніўных лідэраў у свеце.

Затое ганарымся, што маем 300000 узброеных штыкоў – акрамя рэгулярнай арміі яшчэ ўнутраныя войскі, КДБ, спецназы розныя, міліцыю, а таксама службу аховы прэзідэнта. Немцы па колькасці штыкоў на душу насельніцтва ўступаюць нам у дзесяць разоў. Сем гадоў назад А.Лукашэнка шчодра абяцаў значна скараціць армію чыноўнікаў. А яны растуць, як на дражджах і па падліках навукоўцаў іх колькасць наблізілася да мільёна чалавек. Патрэбна краіне пры талковым кіраўніцтве ў два, а то ў тры разы меней.

Наогул цяпер аб нас "добра" ведаюць у свеце. Ведаюць, што пры агульнай нястачы пабудавалі цэлых восем новенькіх лядовых палацаў. А 'хакеісты-чэрці здолелі праваліцца на чэмпіянаце свету. Каб не гэтыя палацы, яшчэ 8 мільёнаў квадратных метраў жылля дадаткова б пабудавалі і колькі бяздомных ашчаслівілі. Многае яшчэ мы не зрабілі пад кіраўніцтвам Аляксандра Рыгоравіча.

І дзесятай часткі не зроблена таго, што трэба было рабіць. Упушчаны каштоўны час. Яшчэ страшней, што цяперашняе кіраўніцтва не разумее, што яно творыць, і ніяк не жадае мяняць сваёй палітыкі. Шкада, што многія нашы землякі так і не зразумелі відавочнага і марна спадзяюцца, што ў складзе Расіі лягчэй стане жыць. Ёй бы самой выбрацца з праблем, пакончыць з вайной. Цяпер А.Лукашэнка нагадвае дрэннага кіроўцу, які крычыць, злуецца, а ніяк не ведае, як запусціць сваю машыну пад назвай "Беларусь", у якой сапсаваўся матор.

Можа іншыя спецыялісты здолеюць адрамантаваць гэты матор? Зыходзячы з гэтага, наша газета падрыхтавала свой спецыяльны выпуск. Чытайце, думайце, бо калі стаяць далей на месцы, дык ужо да зімы стане жыць яшчэ горш...

Факт і каментарый

# ЛЯ РАЗБІТАГА КАРЫТА ІНТЭГРАЦЫІ

Па меры набліжэння выбараў на ўсемагчымы лад будуць казыраць галоўным "дасягненнем" А.Лукашэнкі – збліжэннем з Расіяй. Аднак і на гэтым напрамку ягонай дзейнасці няма чым хваліцца. А пачыналася ўсё так слаўна!

Памятаеце, як "захмялеўшы ад поспеху "бацька", быццам на вясковым вяселлі (на шчасце) пазаліхвацку грамыхнуў свой бакал пасля тоста за падпісанне першага этапнага дагавора з Масквой. Было гэта 2 красавіка 1996 года, а дагавор замацаваў стварэнне Супольнасці Беларусі і Расіі. Роўна праз год яна пераўтварылася ў яшчэ больш шчыльны альянс – Саюз дзвюх краін. Напярэдадні лета 2001 ужо набывае контуры Саюзная дзяржава. Але штосьці няма былога інтэграцыйнага бляску ў вачах мінскага лідэра. Калі адкінуць мішуру, то пяцігадовы юбілей братэрскага яднання сустрэў ён ля разбітага карыта.

Так, удрэбезгі разбілася тая крыштальная мара, дзеля якой ледзь не ў першую чаргу і задумвалася гэта свістапляска. Надзеі на крамлёўскі пасаг у адзін момант рухнулі, калі як чорт з табакеркі выскачыў на змену хвораму Ельцыну малады і хваткі Пуцін.

Раней, калі памятаеце, Лукашэнка не адзін раз нахабна дзёргаў за хвост старога крамлёўскага льва. Ён завочна хаміў Барысу Мікалаевічу і абвінавачваў ягоную каманду ў сабатажы інтэграцыі. Пуцін адразу спыніў гэтую ўседазволенасць. Спачатку халодна адмяніў фамільярную традыцыю цалаванняў, а потым і наогул чотка ўказаў мінскаму васалу, які як наркаман залежыць ад расійскай нафта-газавай "трубы" і якога адрынуў ад сябе цывілізаваны свет, сапраўднае месца Лукашэнкі.

Не, інтэграцыя не пахавана. Аднак яе званы, так той першы дагавор заключаўся пад царкоўны перазвон і благаслаўленне маскоўскага патрыярха, сёння гучыць для беларускага прэзідэнта сумна. Сёння ён ужо не скардзіцца Маскве на тое, што яна быццам не жадае збліжацца. Масква кажа: дзеля Бога, колькі заўгодна! Але – адзін ньюанс: цалкам на ейных умовах. Па шэрагу прычын Расіі невыгадна інкарпараваць Беларусь дэ-юрэ. Аднак былая імперыя ахвотна ўмацоўвае фактычную сваю ўладу над рэспублікай-суседкай.

З аднаго боку, гэта не так ужо і дрэнна. Напрыклад, інтарэсы расійскіх фінансава-прамысловых груп падштурхоўваюць застыўшую беларускую эканоміку да прыватызацыі. А пераход да агульнай валюты агаворваецца надзвычай жорсткімі патрабаваннямі ў крэдытна-фінансавай сферы, што дзядзькі з МВФ уяўляюцца казачнымі дабрадзеямі. Карацей, Масква прымушае беларускі рэжым праводзіць рэформы.

Але выніковы кошт можа апынуцца занадта высокім. Пры гэтым расійскае ярмо палохае не толькі нацыянальна арыентаваную беларускую апазіцыю. Лукашэнка таксама адчувае сябе ў пастцы. Ад беларускага лідэра выціскаюць усё новыя і новыя ўступкі, якія праціўныя ягоным дыктатарскім і антырыначным паводзінам. А што ўзамен? Узамен пакуль нічога канкрэтнага. Нават абяцаны першы транш стабілізацыйнага крэдыта, можна сказаць, замарозілі. І ніякіх сігналаў наконт падтрымкі на хуткіх ужо выбарах. А мярзотнікі-журналісты смакуюць факты, якія прыгнятаюць душу Лукашэнкі, аб версіях пра тое, што Крэмль рыхтуецца паставіць на іншую фігуру...

На справе акрамя славеснай рыторыкі ніякіх прарываў на інтэграцыйным фронце не назіраецца. Застаюцца мытныя пасты на граніцы дзвюх краін. Не вырашаецца ніяк пытанне аб першым траншы стабілізацыйнага крэдыта ўсяго за 30 мільёнаў долараў, які быў абяцаны Беларусі пад аб"днанне грашовых сістэм яшчэ летась. Застаюцца праблемы гарманізацыі падатковых і мытных плацяжоў. Нарэшце бюджэт Саюзнай дзяржавы на 2001 год больш чым сціплы. Ён практычна не змяніўся і складае толькі 2,3 мільярды расійскіх рублёў (або 80 млн. долараў). Такія грошы рэальна не здольныя падтрымаць інтэграцыйныя працэсы і адыгрываюць чыста сімвалічную ролю.

Таму ўсе заўважылі, што яшчэ з мінулага года Лукашэнка перастаў казыраць сваёй любімай інтэграцыйнай картай. Учарашні "вялікі аб'яднальнік славянскіх народаў" страціў у масавай свядомасці манаполію на ідэю інтэграцыі. У гэтай якасці ўжо Пуцін набірае ўдвая больш ачкоў і ка-

рыстаецца большай папулярнасцю, чым Лукашэнка.

Зрэшты, рана спісваць з рахункаў і самога “бацьку”. Няхай разбіліся надзеі на трон у Крамлі, але ўжо за крэсла ў мінскай рэзідэнцыі на Карла Маркса, 38 ён будзе трымацца – і біцца! – да апошняга. Чакайце, што ў разгар перадвыбарнай кампаніі на сапернікаў галавы рэжыма выльецца (і пачаў ліцца ўжо) бруд цэлымі бочкамі. Розных там шоў ад нацыянальных селектараў, прапагандысцкіх паездак у рэгіёны чакаецца процьма. Калі сарвалася ў Расіі, нічога не застаецца, як у сябе на радзіме пастарацца зноў спадабацца “простым людзям”, сыграць на іх комплексах, на іх зажатасці, на зайздрасці, на чым некалі па д’ябальску згулялі Ленін і Сталін, а таксама Гітлер у Германіі.




*Аляксандр Класкоўскі,*
*галоўны рэдактар інфармацыйнай кампаніі БелаПАН.*
*(друкуецца ў скарачэнні)*

**Ад рэдакцыі.**

***Цалкам падзяляючы вывады вядомага беларускага журналіста, у свой час рэдактара самай масавай і папулярнай газеты “Знамя юности”, хацелася б дадаць яшчэ. Усё больш сведчанняў таго, што Маскве надакучыў непрадказальны і скандальны лідэр. Лукашэнка дазволіў сабе пакрытыкаваць, па яго словах, “никуда не годную систему власти в России”, якую стварае Пуцін. “Бацька”, як той дырэктар ў саўгасе, ідзе на адключэнне расійскіх тэлеканалаў. У адказ з яго расійскія СМІ, тэлебачанне саюзніка адкрыта здзекуюцца і смяюцца, называючы “обнаглевшим парнем” і “чересчур дорогим союзничком”. Сумна, але з-за выскачкі церпіць абразу ўвесь народ, які ўжо і ва ўяўленні расіян паўстае напоўгалодным статкам на чале з адыёзным пастухом.***

# АСАБЛІВАСЦІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АЛКАГАЛІЗМУ



Надыходзіць лета – час адпачынку і рэфлексіі... Трэба адзін раз за год падумаць і паразважаць. Пра вечнае, пра жыццё і смерць – як мы жыццё марнуем і з якой хваробай паміраем. А паміраем мы часьцей і часьцей ад банальнага алкагалізму. І ў Менску разам з "Чарнобыльскім шляхам" час праводзіць "Гарэлачны шлях".

На алкагалізм – як на рак! – хварэюць *усе* без вынятку: бедныя і багатыя, разумныя і дурныя, гаспадарныя і абадранцы. Пачынаецца ён звычайна *ў сябе дома,* прыблізна ў веку ... пяці гадоў.

У вёсцы гэта, як правіла, дакопкі бульбы, а ў сталіцы і другіх культурных цэнтрах нейкая ўрачыстая нагода: цётка Маня прыехала, суседзі ў госці прыйшлі etc. І вось пяцігадовы Саша сядзіць за адным сталом з дарослымі, і яму наліваюць *чарку.* Няважна, сок альбо ліманад – важная *чарка.* Бо не з гарэлкі алкагалізм пачынаецца, але з чаркі. І менавіта за супольным урачыстым сталом сярод родных і блізкіх, якія ўсім хочуць толькі дабра...

Далей – болей. Гадоў у дзесяць (ці ў восем!) адзначаецца юбілей Сашы (ці ягонага аднакласніка). І шаноўная мама налівае дзецям ... па кропельцы лёгкага сухога віна. Ноччу Саша пачынае рыгаць, ікаць, плакаць, хрыпець, раскідвацца, захлынацца – адным словам, спаць неспакойна. Мама Сашы кляне той салат "аліўе" з пазаўчорашняй кілбасой, але ў галаву ёй не прыходзіць кропелька сухога віна. Заўважым, ізноў былі "адны свае", ізноў усе хацелі толькі дабра...

Між тым Саша расьце. Гадоў з дванаццаці-чатырнаццаці пачынаюцца розныя школьныя вечарыны-дыскатэкі. Там ужо пляшку па коле Саша з прыяцелямі пускае самастойна. Што праўда, не зусім. Бо капейчыну дае... тая ж мама. Пры гэтым разам з капейчынай дае вельмі характэрную для нашага нацыянальнага характару інструкцыю:

-Сынку, ты ж будзь як чалавек! ***Ты пі, толькі не напівайся...***

Пасьля такога блаславення лёс Сашы вырашаны. Алкагалізм, хранічны алкагалізм, безнадзейны алкагалізм. Калі хочаце – ***беларускі алкагалізм.***

Маме ў галаву ня прыйдзе сказаць: "Сынок, ты ня пі зусім! Няхай другія хоць захлынаюцца, няхай з цябе смяюцца... Прыйдзе час, і ты з іх пасмяешся. А яны заплачуць..."

Сказаць сыну "ня пі!" беларуская мама здольная толькі ў адным з блюзаў Шалкевіча.

Сказаць сыну "ня пі зусім" беларуская мама ***не можа.*** Тады (на яе думку) сына будуць дражніць, ня браць у кампанію, западозраць у ім хворага, слабака, гліста, хлюпіка etc. А гэта адаб'ецца не толькі на сыне, але... на "аўтарытэце" ***усяго*** сямейства. У гэтым ***смак*** беларускага жыцця: маеш быць "як усе", маеш ***абавязак*** піць, бо інакш трапляеш у "слабакі", "хлюпікі" і ўвогуле вырадкі, ***не людзі.*** Але не маеш напівацца! Бо тады трапляеш... у тыя самыя "слабакі", "хлюпікі" і ўвогуле вырадкі. Такім чынам беларуская калектыўная папойка – гэта своеасаблівы ***натуральны*** адбор "па Дарвіну". Праз выпіўку беларусы адсейваюць "слабакоў" ад "мужыкоў", "чужых" ад "сваіх" – мае быць ***як у людзей,*** мае быць "аднакава", мае быць "роўнасьць у чарцы". Нашы папіюхі і звязаная з імі "беларуская гасцінасьць" гэта ... ***дэтэктар на літражы.*** Такі "дэтэктар" тым добры, што заўсёды кагосці "выкрые": адзін чалавек лёгка пераносіць алкаголь, а другі цяжка, адзін важыць 65 кг, а другі – 120 кг, адзін мае прыроджаныя захворванні, а другі – не etc. Алкаголь, як сродак калектыўнага выкрыцця "слабакоў і "хлюпікаў"

добры тым, што ён дзейнічае хутка і безадмоўна. Гэта дазваляе вельмі лёгка людзей ***падзяліць*** на тых, хто спіўся і хто ня спіўся. Глыбока памылковае меркаваньне, што ***калектыў*** заклапочаны тым, каб у ім былі "адны свае". Наадварот! Калектыў заклапочаны тым, каб там не было "чужых"... Наймацнейшыя калектывы ў свеце – скажам, "спецслужбы" – ільвіную долю сіл і сродкаў выдаюць не на барацьбу з ворагам, але на праверку і пераправерку сваіх супрацоўнікаў. З гэтага пункту гледжання сучасная беларуская нацыя нагадвае ...нейкую 10-мільённую спецслужбу...

Між тым, Саша скончыў школу, паступіў у вышэйшую вучэльню і трапіў у інтэрнат. А там – усе ад такіх самых мамаў, якія інструктавалі сыноў "пі, але не напівайся!" Таму далей усё працягваецца натуральна... Тым болей, што ролю матак-інструктарак з другога-трэцяга курсу бяруць на сябе ***дзяўчаты***. Цяпер яны навучаюць "пі, але не напівайся!" Каму трэба, каб "яе хлопец" у лужыне ляжаў, альбо... зусім не піў, быў "слабаком і хлюпікам"?!

Нарэшце, вышэйшая адукацыя сканчаецца дыпломам, шлюбам з Маняй і размеркаваннем. І пачынаюцца "шэрыя дні": праца, інтэрнат (цяпер ужо фабрычны), праца. Але шэрыя яны... толькі ў савецкіх размовах. Пры больш уважлівым разглядзе нават на інжынерскія заробкі жыць можна – што праўда, бедна, але ж лёгка і весела. Давайце палічым "гадавую норму" нармалёвага і непітушчага Сашы.

Новы Год (новы і стары), Каляды і Вялікдзень (праваслаўныя і каталіцкія), 23 лютага, 8 сакавіка, Дзень Волі, 1 і 9 мая, "акцябарскія празьнікі", дні нараджэння (Сашы, Мані, татаў, мамаў, братоў і сёстраў з абодвух бакоў), авансы і заробкі, прэміі за год і за чатыры кварталы, розныя выпадковыя святы ў розных сяброў і сяброўак, складчына на службе (прычыны гл. вышэй), тыя ж дакопкі бульбы і гасцяванні розных сваякоў і знаёмых... У аднаго дзівака, майго колішняга супрацоўніка з фабрычнага КБ, такіх абавязковых выпівак атрымалася за календарны год ***сто дваццаць сем***. З разліку паўлітра гарэлкі за раз выходзіць 63,5 л за год. ***Шэсьць з паловай вёдраў.*** Пяць літраў на месяц ці дзве зь лішнім пляшкі на тыдзень... Любы нарколаг узнае такога "непітушчага" за алкаголіка. Гэта пры тым, што па-за вышэйназваным "непітушчы" сапраўды не выпівае "проста так" альбо "за кампанію" – толькі па справе: рамонт, блат, "падзяка" etc.

З пункту гледжання медыцыны алкагалізм падобны да хранічнага атручвання са сталым ***назапашваннем*** атруты ў крыві, а праз кроў – практычна ва ўсім чалавечым целе ад мозга да касьцей і скуры. Таму не "чысты" алкагалізм – сапраўдны паказальнік алкагалізму. Незваротнае назапашванне ***прадуктаў*** узаемадзеяння алкаголю з крывёй і жывымі тканкамі (алкалоіды металаў) можа выклікаць любую хваробу, нават той самы рак, які спісваюць выключна на Чарнобыль. Алкалоіды аслабляюць ***абарончыя здольнасці*** чалавечага арганізму. Адрозненне толькі ў тым, што мужчыны часцей гінуць ад банальнай язвы, а жанчыны ад 40-га году жыцця западаюць у маразм і з тым маразмам атрымліваюць казённую пенсію да 80-ці (на казённую ж службу, ды яшчэ начальніцкую, цягаюцца да 75-ці). Нацыя хворая на алкагалізм ***уся пагалоўна.***

Сам жа па сабе алкагалізм падзяляецца на тры стадыі. На першай, самай лёгкай, тэарэтычна ўсё яшчэ можна выправіць ( толькі не ў круцялёў з іхнымі таблеткамі ды "кадзіраваннем"!): кроў суткі – другія пераганяецца праз ачышчальную калонку (найлепш цэалітавую), брыдота выводзіцца з арганізму на 99%, а потым лепш не піць зусім. Бо раз на два-тры гады "пачысціцца няма як – кроў нават на цэалітах змяняе мікраструктуру, таму працэс ачысткі няможна паўтараць бяскоца.

Другая ступень нашмат цяжэйшая – хвароба ўжо невылечная. Патрэбны дагляд, дыета, спакой, лекі і лекары. Гэты ўжо жыццё ***калекі*** (хоць можна і працаваць, і выглядаць нармалёва).

Трэцяя стадыя – "жывы труп". Тут у медыкаў выбар невялікі – або змагацца да апошняга, або даць "сьвенты спокуй" пацыенту і сабе, каб не пакутаваў чалавек лішнія месяц-другі і жонку заплаканую не мучыў...

Чамусьці ўсе ўпэўненыя, што на любой стадыі алкагалізм можна вылечыць " кінуў піць" – значыць здаровы. А хвароба цячэ сабе далей, праядае ўсё ад касцей да мозгу і невядома, дзе і ў якой форме выявіцца. Ад алкагалізму вылечыць немагчыма – як ад раку.

Горш за ўсё тое, што нават людзі, якія не даехалі да трэцяй стадыі, усё адно хворыя.. У іх напалову адключаны мозг: працуе толькі на засваенне інфармацыі, але не на яе прадукаванне. Чаму, думаеце беларусы гэткія "працавітыя", але кроку не могуць ступіць без начальніцкай каманды? Чаму нават у "нармалёвых" сем'ях, дзе муж не "закладае", усё адно ***жанчына*** кіруе, прынцыповыя рашэнні прымае і грошы лічыць?! Бо "мужык" больш прапіты – і яго мозг ужо нічога не прадукуе самастойна. Зайдзіце на любы кірмаш: жанчына за прылаўкам гандлюе і касу трымае, а ейны муж – грузчык, мяснік і кіроўца BMW. Трагедыя беларусаў, аднак, у тым, што дома, па ўдалым гандлі, сапраўдная беларуская жанчына – астатні шанец гэтага Краю – налівае сыну ***чарку*** ліманаду. І кола круціцца далей.

***Асаблівасць беларускага алкагалізму ў тым, што ён калектыўны.*** Такіх хваробаў мноства (клан, "нівеляванне", астракізм "не такіх, як усе"), але менавіта алкагалізм – як сродак "натуральнага адбору" – адбівае найбольш яскрава нашыя нацыянальныя рысы.

Апошнія сто пяцьдзесят гадоў фармаванне нашай

"нацыянальнай свядомасці" адбываецца пад знакам суцэльнай папіюхі. Першыя бровары з'явіліся ў "польскіх маёнтках" пасля бяздарна прайгранага "лістападаўскага паўстання" 1830 г. У паноў пачалі адбіраць зямлю, ціснуць рэвізіямі. Трэба было шукаць нейкія дадатковыя крыніцы фінансавання. Сапраўдны бум бровары перажылі пасля рэформы 1861 г. – з'явіўся *мясцовы рынак збыту*, учарашні Яська-халоп! Бо раней спойваць "свайго" раба было нявыгадна, іншая справа – свабодны чалавек. Але тады гарэлка нагадвала цяперашняе "чарніла" – градусаў 20 –25. Становішча змянілася пасля таго, як прафесар Дз. Мендзялееў вырашыў задачу, пастаўленую прамысловікамі Смірновым і Шуставым: які мае быць працэнт спірту ў гарэлцы, каб чалавек за адзін год ператвырыўся ў алкаголіка і сталага кліента Смірнова і Шустава? Аўтар перыядычнай табліцы элементаў высветліў гэты адсодак. ***Сорак градусаў.*** З той пары так і не высыхаем... Дарэчы, беларусы спраўна спрычыніліся да паўстання "саракаградуснай": Кансультаваў Дз. Мендялеева ягоны прыяцель, інжынер Леанард Іваноўскі, які працаваў на Енісеі ў героя паўстання 1863 г. Козеля-Паклеўскага. Апошні на кітайскай мяжы наладзіў прамысловы гідроліз спірту з драўніны, што валяецца ў тайзе пад нагамі. Спірт ішоў у Кітай, зыскі дасягалі тысячы працэнтаў...

З 80-х XIX ст. гарэлка ў Мінску і Горадні была ***самай таннай*** ва ўсёй Расейскай імперыі – папулярны "мерзавчік" (100 г) каштаваў ***...пятнаццаць*** капеек пры заробку мінскага пралетарыяту ад шасцідзесяці капеек за дзень на будоўлі да рубля дваццаці капеек за дзень у слясарцы ці на чыгунцы. Пераважная большасць гарэлкі з радзівілаўскіх і вайніловічаўскіх бровараў рэалізоўвалася на месцы, праз славутыя жыдоўскія карчмы і шынкі. Гналі з бульбы, а не з бурака ці збожжа – як на Волзе ці ва Украіне, і праз горшую якасць не маглі канкураваць у сталіцах.

Калі за адно ***дзейснае*** пакаленне лічыць дваццаць гадоў, дык беларуская нацыя ў хранічным запоі пакаленняў шэсць-сем. А алкагалізм – ***хвароба спадчынная***.

Яе праявы ў беларускім нацыянальным характары відавочныя. Чаму гэта беларус – гасцінны, памяркоўны, спакойны – раптам выбухае порахам, як толькі яму што ня так? Пры гэтым "памяркоўныя" мы перад ***начальствам***, а равём і крычым на "сваіх", у сябе дома? Бо "саракаградусная" вядзе чалавека па сінусоідзе: па дзвюх чарках вясёлы, па чатырох – шалёны, следам кароткі сон, потым па дзвюх чарках шалёны, а па чатырох – ізноў вясёлы... Вось і ўся "беларуская шчырасць", "беларуская няўрымслівасць", ці як там яшчэ нашае ***непастаянства*** называецца.

За апошнія дзесяць год канчаткова склаўся чарговы "адраджэнскі" міф: ***гарэлку да нас прынеслі саветы з Усходу.*** Каб знішчыць наш самы лепшы ў свеце народ дзеля інтарэсаў "імперскай Расіі". Расейскі алкагалізм – расейскае гора. Мы гаворым пра алкагалзм беларускі. Паглядзіце яшчэ раз класікаў: Багушэвіч, Колас – да чаго іх персанажы падобныя да цяперашніх "алкашоў"! У мемуарах Максіма Танка прыгадваецца, як летам 1939 года ў ягоную Пількаўшчыну прыехала ўся паліцыя з Мядзелу – на чале з капітанам, на дванаццаці фурманках і з кулямётчыкамі – ганяць самагоншчыкаў... А мая маці апавядае, што "раней зусім не пілі", бо "за польскім часам" вясковыя гаспадары, намерзшыся дзень на кірмашы ў Скідалі, бралі на шэсць санак "чакушку" (250г.), каб пагрэцца. "Чакушку!" – трэсла пальцам маці. "А цяпер што?!" Цяпер тое самае і тады тое самае – толькі што польскія ўлады за самагонку давалі штраф... у дзве добрыя каровы. Таму і скідаліся вясковыя жабракі ў Скідалі на "чакушку" манапольскі, а вось дабраўшыся пад ноч да вёскі, "грэліся" як след. Карані ўсіх легендаў і міфаў банальна простыя, але такія "матэрыяльныя", што нашая народалюбівая інтэлігенцыя ўспрымае іх як...***абразу нацыі.***

Алкагалізм быў малазаўважны за царска-панска-савецкім часам, але ў XXI ст. ён ***выпірае*** з Еўропы так, што не заўважыць яго немагчыма. На Захадзе пануе пераважна ***культура віна***, а бліжэй да нас, у Чэхіі і Нямеччыне, ***культура піва***. У нас пераважае ***"культура гарэлкі"***. Першыя дзве – гэта культура размовы, талеранцыі і ... абыякавасці да суседа. Сказаў чалавек нешта – ягоная справа, а змаўчаў – ізноў яго справа. А нашая "культура гарэлкі" – адвечнае спаборніцтва: крык, тлум і гвалт. Мы ўжо нават ***цвярозыя*** ня можам спакойна выслухаць адзін аднаго. Нам абавязкова трэба кожнага пераканаць, перавыхаваць, перавярнуць на свой капыл. Не ўтрымаюся ад паўтору майго ўлюбёнага св.Лукі: " І прыйшло ім да галавы: ***хто з іх быў лепшы?"*** Культура віна ёсць культурай самадастатковасці. Культура гарэлкі - культура... крыўды і непаўнавартасць, ***культура вайны ўсіх з усімімі*** " каб усе былі, як усе".

Толькі што "пераход на віно", паводле версіі "адраджэнца", альбо на піва, паводле версіі "новага пакалення", прынцыпова нічога не вырашае. Гэта прыблізна тое самае, што цягаць "мерсэдэсам" бульбу з гуркамі... ***Наш алкагалізм даўно ўжо анэксаваў нават абстынэнтаў.*** Алкагалізм па-беларуску – гэта спосаб жыць у фантастычных апавяданнях, як шляхціц Завальня. Гэта вечна-спрадвечны беларускі сон. На халеру тая фактура з аналізам?! "Мне сняцца сны аб Беларусі..." Так і жывём...

***АЛЕСЬ ЧОБАТ. Горадня***

# ПАЗБАВІМСЯ ІЛЮЗІЙ – ЗАЖЫВЁМ ПА-ЛЮДСКУ

Пісаць праўду і толькі праўду – такі абавязак кожнага прыстойнага журналіста. У гэтым сэнсе нам, стваральнікам газеты "Сумежжа" ёсць чым ганарыцца. Задоўга да выбрання прэзідэнтам Беларусі цяпер на ўвесь свет сумнавядомага А.Лукашэнкі мы ўказвалі людзям на відавочныя хібы ягонай кандыдатуры. На жаль, грамадства дазволіла гэтаму чалавеку атрымаць неабмежаваную ўладу над краінай. Таму напярэдадні выбараў новага прэзідэнта не лішне прыгадаць пра тое, каб зноў не паўтарыць ранейшых памылак.

Відавочна, за сем прайшоўшых гадоў гэты дзеяч лепшым не стаў. Але многім разумным людзям даўна было ясна, што толку ад шклоўскага дэпутата на чале дзяржавы будзе мала. Першы раз сказалі мы пра гэта яшчэ ў верасні 1993 года:

"Для нацыянальнага адраджэння не існуе небяспекі звонку – ні Расія, ні Амерыка пагрозы не ўяўляюць. Мы бачым яе знутры. Вось, напрыклад, дэпутат Лукашэнка, ўяўляе для беларускага адраджэння пагрозу большую, чым Расія і Амерыка разам узятыя".

Як толькі ён, як старшыня гучна вядомай камісіі Вярхоўнага Савета па барацьбе з карупцыяй і мафіяй пачаў выкарыстоўваць тэлебачанне для папулярызацыі свайго імя, мы папярэдзілі чытачоў, што такі ход – усяго толькі гульня. Зрэшты, і цяпер ужо разам з БТ па чатырох тэлеканалах гучыць адна такая дэмагогія. А ў кастрычніку 1993 года "Сумежжа" пісала:

***"Выступленне, з першага слова заяўленае ледзь не сенсацыйным, выклікае, шчыра кажучы, больш пытанняў, чым задавальнення... Вельмі яўна праглядваецца, што камісія не зачапіла і не збіраецца чапаць, сапраўды, буйныя структуры, асабліва каля ўрада, каля абласных саветаў, якія выкарыстоўваюць сітуацыю для расцягвання рэспублікі... Але не ў пошуку карупцыянераў, відаць бачыць свой галоўны абавязак камісія."***

Так жа шчыра сказалі мы праўду пра Рыгоравіча, калі распачалася ў сярэдзіне красавіка 1994 года выбарчая кампанія:

***"Пачнём з фігуры найбольш адыёзнай. Аляксандр Лукашэнка. Як толькі пачаў прыглядацца да гэтага чалавека, нешта нават імпанавала ў ім. Гаворыць, а часцей рэжа праўдуматку, не зважае на пасады. І галасам нават такі – прадстаўнік народа. Але потым, асабліва пасля шумных "карупцыйных" разборак, убачыў, што не той чалавек Лукашэнка.***

***Рэальных носьбітаў улады на Беларусі ён не зачэпіць. Ды і да камуністычных ідэй А.Лукашэнка нераўнадушны. Беларусь бачыць толькі ў лоне Расійскай імперыі. Няма ў мяне да яго прыхільнасці. А вось сярод люмпена, сярод абывацеля прыхільнікаў ён знойдзе".***

І не памыліўся мой калега Алесь Касцень у чарговы раз. На жаль, ён, як і шматлікія іншыя выступленні нашай газеты, не былі пачутыя. Але і сёння галоўныя вывады і прагнозы не губляюць сваёй актуальнасці. Давайце разам успомнім пра гэта:

"Прастата і нават прымітывізм праграмы Лукашэнкі відавочныя. Уласна кажучы, ён пабудаваў свой марафон на трох кітах: барацьба з карупцыяй, клопат пра народ і звычайны... скандал."



"Знявераныя людзі гатовыя ў чарговы раз падмануцца: маўляў, хай прыйдзе Лукашэнка. Можа, ён разгоніць гэту хеўру. Каб жа разагнаў, дык ужо за адно гэта, можа, варта было б галасаваць. Але ж не намі і не цяпер заўважана: воран ворану вока не выклюне..."

***" У другім туры галасавання не засталося ніводнага дэмакратычнага кандыдата: ні Лукашэнка, ні ебіч не адпавядаюць патрабаванням грамадства, бо па сутнасці прадстаўляюць адну наменклатурную каманду. Хто б з іх не перамог – гэта азначае працяг разбурэння эканомікі, інфляцыю... Лепш тры месяцы з Грыбам, чым пяць гадоў – з чырвоным прэзідэнтам."***

***"Зноў Беларуссю будзе кіраваць чалавек, які "как хаціт, так і гаварыць". Можна чакаць, што камісія па дзяржаўным гімне будзе скасавана, бо, відавочна, што прэзідэнта Лукашэнку задавальняе і "Мы, беларусы, з братняю Руссю..." Ды і герб БССР на Доме ўраду будзе як раз да месца".***

***"Хіба "старэйшы брат" вінаваты, што вы канцы з канцамі ня зводзіце? І гэта ў транзітнай краіне, у цэнтры Еўропы! Такія краіны поўняцца малаком і мёдам – калі, вядома, жывуць сваім розумам, а не спадзяюцца на чужы."***

***"Увогуле кажучы, гэта вяршыня цынізму і крывадушнасці – гучна панізіць цэны на некалькі танных прадуктаў, ведаючы, што праз пару тыдняў яны вернуцца назад. Аднак ва ўсім тым спектаклі ёсць стратэгічная мэта:прывучыць народ да пакланення адзінаму збавіцелю, "бацьку". Часам мне здаецца, што Лукашэнку зусім не трэба, каб мы сталі багатымі, нацыянальна свядомымі, унутрана незалежнымі і свабоднымі, - бо такія людзі ніколі не выберуць палітыка кшталту Аляксандра Рыгоравіча."***

Можна прыводзіць падобныя цытаты і далей. Але ж сказана гэта было даўна, амаль сем гадоў назад. Толькі і сёння, як я пісаў у лістападзе 1994 года, **жыццю сабачаму не бачна канца.** Хто са мной не згодны, хай падлічыць, колькі грошай застаецца неўзабаве пасля зарплаты ці пенсіі ў кішэні, і як часта ён прыстойна і смачна харчуецца. Бяда ў тым, што беларусы апынуліся фактычна там, дзе і былі ў сярэдзіне дзевяностых гадоў, **калі суседзі пайшлі наперад.**

Наперадзе ўсіх нас чакае вельмі адказны выбар. Фактычна, гэта экзамен для кожнага жыхара раёна на чалавечую годнасць, розум і вартасць. Зноў, шаноўныя сябры, хутка вас будуць застрашваць, падманваць і абяцаць залатыя горы ў выглядзе міфічных сто долараў у разліку на аднаго чалавека. Але я памятаю, як аднойчы нават старэнькія бабулькі і дзядкі смела і дружна ішлі ў кабіны для галасавання са сваімі ручкамі і выкрэслівалі фаварыта-прэм'ера так, што папера трашчэла. Тады мы былі людзьмі, якія свядома зрабілі выбар, хоць і памыліліся. Будзе недаравальна і прыкра, калі ў рашаючы момант зноў наступім на адны і тыя ж граблі. А пакуль ёсць час, давайце думаць, як будзем жыць далей.

***Уладзімір Шык***

# ТАМ БЯРОЗКА, ТУТ САСЁНКА – І ЦЯГНІКОМ ЗА МЯЖУ

Мне ўжо даводзілася пісаць у "Сумежжы" пра тое, як настойліва і з зайздроснай упартасцю высякаюцца ў нас лясы. І не з мэтаю расшырэння дзейнасці беларускіх дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў. Драўніна ідзе за межы Беларусі. Ідзе ў выглядзе круглякоў, у выглядзе дошак, што азначае толькі першасную яе перапрацоўку. Потым яна вернецца да нас у выглядзе мэблі і г.д. Але пакуль што наша кіраўніцтва задаволенае продажам якраз сыравіны. Хоць і танна, але ж затое прабытак пастаянны, ды яшчэ ў валюце. Ды што там, пабывайце на чыгуначнай станцыі Паставы. Штодзень ідзе тут пагрузка драўніны. І адрасы самыя разнастайныя. Беларускую сасну ды бярозу цэняць нават у Фінляндыі, якая нібыта на драўніну і багацейшая. Але ж там сваё берагаюць. Чаму не берагаць, калі ёсць таннае чужое. Сваё застанецца наступным пакаленням.

І як бы ні пераконвалі мяне ў тым, што высечанае аднаўляецца—сумненняў больш.

А цяпер вось новае. У Пастаўскім раёне створаны яшчэ два лясніцтвы—Камайскае і Валкоўскае. Цяпер іх ужо дзевяць на нашы адносна невялікія лясныя ўгоддзі. Справа ў тым, што ў калгасаў адабралі іх лясы, яны перайшлі ў падпарадкаванне дзяржавы. Чаму—таксама зразумела. Дзяржава бярэ пад свой поўны кантроль усе лясы з галоўнай мэтай, больш эфектыўнай іх эксплуатацыяй ( чытай, высечкай).

Ну а хто здзяйсняе кантроль за гэтай высечкай, за экспартам драўніны, хто вызначае аб'ёмы, кантралюе валютныя прыбыткі? Пытанне рытарычнае. Той, хто кантралюе ў нашай краіне ўсю дзейнасць, якая прыносіць валютныя прыбыткі.

Вось толькі новым уладальнікам калгасныя лясы дасталіся не заўсёды ў належным стане. І яшчэ адно засмучае. Калі раней дзядзька зімою ехаў на ўскраек калгаснага лесу, каб высечы хмызняк сабе на паліва, ён мог яшчэ спадзявацца на літасць калгаснага лесніка, калі трапіць яму на вочы, то цяпер супраць гэтага дзядзькі цэлая адладжаная і бязлітасная сістэма лясной аховы. Калі няма грошай выпісаць дроў альбо торфабрыкету, у лес , дзядзька, ужо не сунься. Сушы кізякі.

***Алесь Касцень.***

**Заснавальнік: Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны**

Рэдактар: **Міхал Гіль**

Адрас рэдакцыі: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, д.11. Тэл. (02155) 2-17-84.
E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі

Распаўсюджваецца бясплатна.
Наклад 299 асобнікаў.
Надрукавана на абсталяванні нашых сяброў